# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 13 (1205) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 1 КРАСАВІКА 1979 г. ЦАНА 60 гр.


## ЮБІЛЕЙ

**8** сакавіка мінула 25 год з таго дня, калі гарадоцкія жанчыны ўпершыню выступілі з песнямі перад публікай. Дэбют быў удалы, мабілізуючы. Потым былі далейшыя выступленні з усё дасканальшым мастацкім узроўнем. Спявалі яны польскія, рускія і свае родныя, беларускія песні, спявалі песні народныя і складзеныя Нінай Мушынскай, якая была і душой і кіраўніком гэтага калектыву. У свой рэпертуар уключалі яны таксама песні, якія даўно палюбіліся слухачам у выкананні слаўных спевакоў.

На канцэрты гарадоцкага жаночага хору пачалі рабіць заяўкі. Ён выступаў на малых і вялікіх сцэнах, у малых і вялікіх гарадах, на міжнародным фестывалі моладзі ў Варшаве і там жа на цэнтральных дажынках, а таксама некалькі разоў на Гродзеншчыне ў БССР.

Хто б ведаў у далёкіх і вялікіх гарадах Польшчы, што ёсць такая на Беласточчыне мясцовасць, якую называюць Гарадок, якая „ні то вёска, ні то горад“, як гаварылася ў песні, напісанай Нінай Мушынскай!



*Юбілейны канцэрт.*

Жаночы харавы калектыў прыносіў славу многім арганізацыям, ад імя якіх выступалі яны ў шматлікіх песенных конкурсах. І так выступаў ён і ад мясцовага гуртка Лігі жанчын, і ГОКу, і ад ТППР, і ад пажарнікаў, і ад прафсаюзаў, і ад імя Беларускага таварыства. Ужо першы арганізацыйны з'езд БГКТ упрыгожыў хор задушэўнымі мелодыямі беларускіх песень. З таго часу ГП БГКТ па меры сваіх магчымасцей аказвае калектыву дапамогу, у асноўным забяспечваючы яго народнымі беларускімі касцюмамі. І трэба сказаць, што намнога бяднейшае было б БГКТ у сваёй культурнай дзейнасці, каб не было гарадоцкага хору, які ўжо 12 год працуе пад мастацкім

(Працяг на стар. 4)



*За ўсё падзякавала Ніна Цыванюк.*



*Віншаванні прымала Ніна Мушынская.*

## З рэпарцёрскіх запісак

## НЕ РАБІЦЬ, А ЖЫЦЬ?

**П**ракуроры, якім у мінулым годзе давялося працаваць на Беласточчыне, не маглі, на жаль, скардзіцца на недахоп заняткаў. Пастараліся ў гэтым прыхільнікі лёгкай нажывы, людзі, якія хацелі б багата жыць і нічога не рабіць, а дакладней кажучы, усё рабіць, каб нічога не рабіць.

Паводле падлікаў ваяводскай пракуратуры ў Беластоку, затраты дзяржавы ад празнага роду крымінальных махлярстваў, якія міліцыя выявіла ў мінулым годзе, перавышаюць 60 мільёнаў злотых.

Напісаў я **„затраты дзяржавы“**. Значыць, махляры пакрысе абкрадалі кожнага з нас, бо дзяржава — гэта перш за ўсё ўсе мы, яе грамадзяне, і хто крадзе або нішчыць дзяржаўнае ці грамадскае дабро, перш за ўсё шкодзіць сабе і нам усім разам, ды кожнаму паасобку.

*

У невялічкім пасёлку, які знаходзіцца ля шашы з Бельска ў Сямяцічы, памяшчаецца сядзіба адміністрацыі спулдзельні „сялянскай самапомачы“, а ў гэтай спулдзельні падабралася адборная кампанія: два магазінеры, старшыня і яго намеснік ды яшчэ так званы арганізатар абслугоўвання вясковай гаспадаркі. Кампанія аказалася вельмі спагадлівая для сваіх патрэб і нават таленавітая. Кіруючы вясковым гандлем у прасторнай і багатай гміне, перш за ўсё думалі аб „самапомачы“ сабе, а ўжо сялянам — як аставалася.

Цяпер усе яны чакаюць судовага прыгавору. Пракурор абвінавачвае іх у тым, што разам гэтыя адказныя працаўнікі ГС-у змахлявалі аж **1 мільён 257 тысяч злотых.** І гэта на працягу толькі двух гадоў. У акце абвінавачання чытаем: „...розныя віды мінеральнага ўгнаення пастаянна перамешваліся з зямлёй і цэментам, моклі, трацілі якасць... Магазінеры не дбалі аб парадку ў дакументах, розныя квітанцыі або зусім не аддавалі ў бухгалтэрыю, або аддавалі праз некалькі месяцаў...“

Пракурор Г. Панцэвіч паясняе, што магазінеры часта наладжвалі ў час працы сяброўскія выпіўкі за дзяржаўныя грошы. Напрыклад, у 1977 годзе на працягу цэлага года толькі два разы адвялі яны ў касу дзяржаўныя грошы. Рэшту або прапілі, або ўкралі сабе.

Аднойчы дайшло да таго, што неабходна было правесці пераацэнку сапсаваных мінеральных угнаенняў. Камісія, шукаючы адпаведных дакументаў, заглянула ў адну з шуфлядаў, адкрылі яе, а з шуфляды высыпалася цэлая куча грошай. Усе скамечаныя, зусім нялічаныя. Знаходзілася там, як пасля ўстаноўлена, нейкіх 350 тысяч злотых. Камісія паведаміла аб гэтым кіраўніцтву ГСу. Аднак старшыня і яго намеснік аднесліся да гэтага зусім абыякава.

Дарэчы, самі яны масава састаўлялі зусім фікцыйную дакументацыю, на аснове якой атрымалі ад страхавачнай установы (ПЗУ) амаль **паўмільёна** злотых. Аднойчы па загаду намесніка стар-

(Працяг на стар. 2)

## НА СЦЭНУ — РЭГІЯНАЛЬНУЮ ТВОРЧАСЦЬ!

**Б**еластоцкая Ваяводская рада прафесіянальных саюзаў праводзіць цікавае мерапрыемства. У сувязі з 35-годдзем Народнай Польшчы арганізавала яна **„Эстраду вынаходлівых, гаспадарлівых і культурных“.** Такім чынам важнейшыя гарадскія і гмінныя асяроддзі Беласточчыны маюць магчымасць вельмі дакладна прыглядзецца да сваіх здабыткаў у розных галінах жыцця за мінулыя трыццаць пяць год і пазнаёміць беластаччан з найважнейшымі, найбольш паказальнымі.

І так, цэлыя два дні, 3 і 4 сакавіка г.г., ва ўсіх залах будынка беластоцкага кінатэатра „Звёнзковец“ панаваў **Бельск Падляшскі.** Меў што паказаць і чым захапіць.

Хоць і старажытны, рэдка аднатоўваў у сваім мінулым бляскі росквіту і славы, часцей жа ліпеў у цені заняпаду. Толькі за мінулыя тры дзесяцігоддзі з глухога мястэчка вырас у значны гаспадарчы і культурны цэнтр на Беласточчыне, стаў вядомы не толькі ў Польшчы, але і ў многіх краінах. Гэтую добрую славу пашыраюць бельскія „Ухвыты“, што 80% сваіх вырабаў высылаюць у звыш 30 краін свету, між іншым у СССР, Японію, Злучаныя Штаты Амерыкі; вытворчасць гэтага завода расце з кожным годам, калі ў 1974 г. яна склала 63,4 млн. зл., то ў 1978 г. яна дасягнула вартасці 108 млн. зл. Крок у крок з „Ухвытамі“ ідзе бельская малачарня, якая свае вырабы пастаўляе ў крамы Беластока, Узбярэжжа, Шлёнска, а таксама экспартуе амаль у 20 краін свету. Калі ў 1950 г. яна перарабіла 5 мільёнаў 638 тысяч літраў малака, то ў 1978 г. ужо 64 мільёны 800 тысяч літраў. Яшчэ буйнейшы росквіт уласцівы Бельска-падляшскаму будаўнічаму прадпрыемству. У пяцідзесятыя гады сваю дзейнасць пачынала яно ад пабудовы аднапавярховых домікаў, вясковых кузняў, двух- трохкласных школак, а цяпер узводзіць навейшыя бальніцы, цэлыя кварталы высотных дамоў, фабрыкі. З заслужаным гонарам яно паказала на сваіх стэндах фатаграму будовы ў Бельску завода электронных элементаў для польскага каляровага тэлевізара. Што ж, актыўны ўдзел ва ўзвядзенні вялікіх аб'ектаў агульнапольскага значэння для гэтага прадпрыемства не навіна — яно ўнесла свой уклад і ў пабудову гуты „Катавіцы“. Прыемныя гэта факты. Асабліва, калі яны паказаны як лагічнае, натуральнае развіццё і працяг той незвычайнай працавітасці і гаспадарлівасці, што ўласціва спакон веку бяльчанам.

У адной з выставачных залаў вучнёўскі этнаграфічны клуб з Бельскіх сельскагаспадарчых школаў абсталяваў вельмі цікавую выстаўку „Вясковая жанчына“, на якой згодна з порамі года паказаў колішнія прылады працы і вырабы бельскіх сялянак. Дасканалая гэта рэч! Цэпэлія не абмінула нагоды, каб пазнаёміць з надзвычайным багаццем форм і дасканаласцю выканаўчага майстэрства бельскіх „каробачнікаў“, г. зн. умельцаў пляцення з саломы і лазы, такімі, як М. Бабулевіч з Парцава, М. Карпук са Шчытоў, А. Таранта з Бельска і шэрагам іншых, словам з найвыдатнейшымі прадстаўнікамі „бельскай саламянай рэспублікі“, вырабы якой вядомы на ўсіх пяці кантынентах зямной кулі. Цешыць і тое, што гэтыя традыцыі народнай вытворчасці маюць дастойных прадаўжальнікаў у маладым пакаленні. Нават сярод сувеніраў і іншай дробязі, што выконваецца на занятках тэхнічнага выхавання бельскіх школ, выразна заўва-

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

## ВАРШАЎСКІЯ ПЕЙЗАЖЫ

Мая ноч
Цудоўная
Вялікая
Цікавая.
Яна — магазін
З прошлым сардэчным смехам
З чалавечым словам
З зялёным лугам.
Усё тут наша.
Няма купцоў
І купляючых.
Мая ноч
Вялікая.
Яна адкрывае сёння
Другі магазін.
А тут
І спалены цень надзеі
І сум
І туга
І збураны мары назаўсёды.
Перада мною
Дарога
У пусты
Халодны
Чужы магазін
З купляючымі
Усмешкі
Словы
Мары....

* ✲ *

Пяройдзе сон
І ты
Усё зноў зменіш...
Рассунеш мозг
Ні халоднай кроплі дажджу
Ні шкілетаў
чужых і сваіх
Слоў.
Будзеш плаваць
Датыкаць пальцам
Паўмёртвых
І паўжывых яшчэ
Пачаткаў — канцоў...
Пачатак — канец.
Ёсць і няма ў тым
Адлегласць кропак
Дарогі з пытальнікаў клічнікаў.
Пачатак — канец.
Круг
Тут можна
Часам
Нават паволі віруючы
Выпасці...

* ✲ *

Апранаеш штодзённа
Свой шкілет
У мары.
Апранаеш шалёную канструкцыю
Свайго чорнага века
У розныя словы.
Словы гладкія
Словы — камяні
Словы — цені слоў.
Завешаны
У пустым маўчанні
Ты маўчыш...

* ✲ *

Няма сонца
Няма кветак
У тваім сэрцы.
Ты сніш
Далёкае дзяцінства.
Паменшыш вочы
Уключыш
Свой маленькі аўтамат
У сэрцы.
Не пачуеш ты
Твае думкі
Бягуць няспынна
Да цёплых матчыных рук
Да роднага месца...
А мо гэта быў толькі сон
Дзяцінства сваё
Ты ў фантазіі
І марах стварыў?

* ✲ *

У чорнае горла кветак
Атрутай увaходзіць тут дождж.
Зярнятку пяску
Што адарвалася ад свайго берага
Няўзгодзе жыць тут з паветрам.
Тут можна
Нават
Рэзаць сэрцы
Без болю.
Ісці б далей?
Перад табой толькі масты
Што вырастаюць
Падаюць
Уваскрасаюць...

**Надзея Артымовіч**

* ✲ *

Ці я нясмелы?
Але навошта крычаць тады праўду,
калі яе
зразумець ніхто не хоча?

* ✲ *

Ці хтосьці калі-небудзь зразумее
без слоў
музыку маіх палаючых жыл,
у якіх кроў
як кіпецень
булькае?

**Іштван Дабі**



## СТРАШЭННА ПЛАКАЎ МАЛЫ ЯКАЎ

*Адлупцавалі небараку*
*За тое, што сястрычку тоўк.*
*Страшэнна плакаў малы Якаў,*
*А калі змучыўся — замоўк.*

*Матуля кажа: — Богу дзякуй,*
*Замоўк урэшце, роў ды роў.*
*Адказвае на гэта Якаў:*
*— Як адпачну, дык буду зноў.*

**Віктар Швед**

## СВЯТАЯ НОЧ

10

*Спіць дзень.*
*Са спраў зямных*
*ачышчана дарога.*
*Туман*
*лугамі травяністымі брыдзе.*
*Такі спакой...*
*Толькі*
*надзея і трывога*
*лунатыкамі*
*ходзяць ува мне.*

11

*Я чую,*
*прыходзіш ты часам —*
*у росах,*
*у ляскаптні цёрніц,*
*у крыку варон,*
*з касой за плячыма,*
*ў духмяных пакосах,*
*то казкай чароўнай*
*уліваешся ў сон...*
*І бачу прасторы*
*цудоўнай краіны —*
*белыя коні*
*лугамі плывуць,*
*неаб'езджаны коні*
*некаваным капытам*
*па нябрытай раўніне*
*ўзор шчасця ткуць.*
*І хочацца бегчы.*
*Душа цягне*
*да коней.*
*У зялёным раздоллі*
*світае дарога.*
*Ды жаль,*
*параход мой*
*на якары тоне —*
*скупавата з надзеяй,*
*трывогі замнога.*

**Міхась Шахэвіч**



* ✲ *

Каханне прыйшло
як прыходзіць прыяцель
як квітненне
у майскія вішні
як сонца ў пшаніцу
з-пад неба
мы адчулі што вусны
не лішнія
мы адчулі што грудзі
патрэбныя
ты прыйшло занялося работай
аб'яднала самоту з самотай
і з палеткаў сэрцаў-адлогаў
пралажыла у радасць
дарогу

**Алесь Барскі**



### ВЫНІК ЛІТАРАТУРНАГА КОНКУРСУ

На конкурс за месяц люты было прыслана восем твораў, у тым ліку шэсць вершаў і два апавяданні. Творам месяца стаў верш Пятра Байко „Адкладаеш скібу часу“. Віншуем. Чакаем наступных удзельнікаў. Прыпамінаем, што творы павінны быць напісаны на беларускай мове. Віншуем таксама Юрку Трачука за свежасць задумы і жадаем поспехаў у яе перадаванні.




Тэлевізар гудзеў, бы злыдзень. Цямнела. Цені сышчыкамі хаваліся па кутках, хітра падглядаючы. Рабілася неяк сумна, панура. Пакой нагадвае вялікую труну, над якой зачынялася века, хаваючы ўсе падзеі і радасці. Было неяк пуста ды нечага не хапала. За акном далёка-далёка, дзе лес вітаецца з даляглядам, засынаў дзень. Сям-там яшчэ відпеліся камкі хмар, бы спозненае на начлег стадка авечак, але і тыя хаваліся.

Якуб сядзеў і, тупа ўглядаючыся ў гэтае ашаламляючае люстра, думаў: па якую халеру туманяць людзям галовы ды псуюць нервы? Вось і цяпер нейкая паўголая жанчына спявала нейкую звар'яцелую песню. Якубу рабілася жаль гэтай грэшнай пакутніцы, але думаў ён не аб ёй, задумоўваўся над сваім становішчам. Ужо больш як год у гэтай турме. Ані людзі да цябе, ані ты да людзей, дзевяты паверх. Ды яго і нікуды не пускалі.

— Чаго будзеш лазіць? — гаварылі. — Стары ты ўжо, адпрацаваў, пасядзі, тэлевізар паглядзі.

Добры быў ён, гэты сынок, але часам гэтая дабрата горлам пачынала Якубу вылазіць. Але пра гэта бацька стараўся не думаць, тым больш, што сын ляжаў на ложку і чытаў. Ды і чаго тут грашыць — чыста, суха, цёпла, ежа нядрэнная, ну і чаго яшчэ? Але нешта псавалася, непакоіла. І Якубу здавалася, што сын за ім сочыць, быццам бы хоча пранікнуць у яго душу. Якуб палохаўся, што такія думкі прыходзяць, але непакой не даваў спаць па начах. Тым больш, што падслухаў гутарку сына з жонкаю.

— Ведаеш, Манька, — гаварыў ён да жонкі, — наш стары неяк прытупеў, часамі сядзіць і гадзінамі глядзіць кудысь далёка-далёка, быццам аглох.

— Скляроз. — Да лекара яго трэба, у бальніцу палажыць, хай падлечаць. Не дбаеш пра бацьку.

— Бач, халера яе, — думаў Якуб. — Нібы такая добрая, а пазбыцца ўжо хоча. Век пражыў без лекара. А тут раптам скляроз. Грошы за гаспадарку забралі, а цяпер стары не патрэбны. Ах Божа, ты мой Божа, — уздыхнуў Якуб. — Так яшчэ пажыць хочацца. Вырвацца б з гэтай труны. Уцячы туды далёка-далёка, у польны прастор, у глуш лясную, пачуць кумканне жаб на змярканні ды спеў салаўя, паслухаць, як зямля ўздыхае ды плача буйнымі росамі, убачыць яшчэ кволенькія маладыя парасткі збожжа, бабскае ле...

Раптам востры гук званка, бы бізун, сцебануў па Якубавых думках. Усхапіўся, каб адчыніць, але сын даў знаць рукой, што сам. Сцішыў тэлевізар, вышаў у калідор, шчыльна зачыняючы за сабой дзверы. Заўсёды гэтак рабіў, калі нехта прыходзіў. Якуб слухаў.

— Можа ўжо па мяне, — мільганула нядобрая думка. Падышоў да дзвярэй. У калідоры было некалькі асоб. Сын быў нейкі ўзрадаваны, смяяўся. Пайшлі ў гасцінны пакой! Пэўна, будзе выпіўка, а пасля? Пасля прыдуць і забяруць мяне ў бальніцу.

Гэтая недарэчная думка прыбіла яго. Унутры нешта абарвалася і такі жах авалодаў ім, што з месца не мог крануцца. Здавалася, што ўсё ягонае жыццё маланкай мільганула перад вачыма і громам рассыпалася ў дробны мак. Крыху ахаладзеўшы, падышоў да акна і, адхіліўшы фіранку, глянуў. Закруцілася ў галаве. Ледзь не ўпаў. Ухапіўшыся за акно, прыгледзеўся лепей. Чорная мазь ночы ахутвала ўвесь свет, а ён, быццам завешаны ў нейкай клетцы пад самымі хмарамі. Кругом мільгацелі дробныя агеньчыкі рознаколернага святла. Яны, здаецца, бегалі, мітусіліся ды паўзлі. То гаслі, то зноў загараліся. На фоне гэтай чорнай плахты ледзь відавочна, далёка-далёка, здаецца, у тым баку, дзе стаяла яго Альшанка, раз-пораз бліскалі маланкі, асвятляючы агромныя звалы хмар.

Якуб адышоў ад акна і разгублена разглядаўся па пакоі. Хацелася крычаць, што ён здаровы, што яму няма патрэбы лячыцца, але баяўся, што гэтым разгневае сына і нявестку. Ціхенька адчыніў дзверы і выглянуў на калідор. Не было там нікога. Толькі з гасціннага пакоя далятаў вясёлы смех, гутарка, грымнула „многае лета“. Вышаў у калідор, потым, пханы нейкай сілаю, націснуў клямку галоўных дзвярэй. Апынуўся на сходах. Сышоў уніз.

Нікога не было. Стаяла такая цішыня, што ён аж спалохаўся. Ужо хацеў вярнуцца, калі раптам... недзе зверху моцна хлопнулі дзверы, пачуліся гнеўныя галасы.

— Гоняць, — мільганула думка. Якуб кінуўся хутчэй уніз і выбег на вуліцу. Тут было пуста. Цёплы пах паветра ўдарыў у ноздры, дадаючы нейкай сілы і бадзёрасці. Прыгнуўшыся як мага бліжэй зямлі, перабег на другі бок, дзе рос малады хмызняк, і расплыўся ў чорнай ліпеньскай ночы.

**Уладзіслаў Дваракоўскі**

## IRENA JAROCKA



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала Гражына Кайдэвіч з Нараўкі.

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: А. купіў на ўласнасць кватэру ў жыллёвым кааператыве. Маючы прыдзел на ўчастак зямлі, ён пабудаваў аднасямейны дом. Збіраецца пераехаць у новае памяшканне. Ці можна прадаць кааператыўную кватэру каму-небудзь, ці перапісаць асобам блізкім? Ці мо кааператыў можа паводле свайго меркавання распарадзіцца кватэрай?

АДКАЗ: Той, хто набывае на ўласнасць кааператыўную кватэру, па закону не з'яўляецца ўласнікам гэтай кватэры. Паводле арт. 147 § 2 закону аб кааператывах і іх саюзах, яму прыслугоўвае абмежаванае рэчавае права на нерухомую маёмасць, якая з'яўляецца ўласнасцю кааператыва. З гэтага вынікае, што яму не прыслугоўваюць усе тыя правы, з якіх карыстаецца ўласнік. Пераязджаючы ў іншае, сваё памяшканне, страціць права на кааператыўную кватэру. Аднак яму на працягу 6 месяцаў ад апаражнення кватэры — калі далей не выступіў з кааператыва або не быў выкрэслены са спіска членаў — прыслугоўвае права паказаць кааператыву свайго наступніка, якім можа быць асоба, якая набудзе ад яго права на кватэру, або асоба, яму блізкая. Зразумела, асобы гэтыя павінны падаць у праўленне кааператыва заяву аб прыняцці іх у рады членаў кааператыва. Права гэтае вынікае з арт. 149 закону аб кааператывах і іх саюзах.




Дарагое Сэрцайка, нядаўна мая сяброўка выходзіла замуж і запрасіла мяне на вяселле. Запрасіла мяне, а майго хлопца не. Сярод сваякоў і знаёмых было і так многа хлопцаў, а дзяўчат было мала. Спачатку я пастанавіла не пайсці на гэтае вяселле, бо спадзявалася, што Андруша на мяне пагневаецца. Але мама і сястра мая сказалі, каб ішла. Я і сама, добра прадумаўшы ўсё, вырашыла пайсці, бо нічога ж я дрэннага ў канцы канцоў не раблю. Але погляд Андрушы на гэтую справу быў іншы. Паводле яго на вяселле я магла пайсці толькі з ім. На вяселлі было вельмі добра. Сват мой быў вясёлы, мілы. З ім я і гуляла ўвесь час, бо танцаваў ён вельмі добра. Па-сяброўску я з ім і рассталася. Але да Андрушы дайшлі зусім іншыя весткі. Быццам я там шалела і што толькі вырабляла з нейкім хлопцам і да таго яшчэ дагаварылася з ім на спатканне. Андруша паверыў гэтым плёткам. Пагневаўся і не наведвае мяне. Але я яго часта бачу, бо жывем недалёка, і ведаю, што ён стараецца мне ўлезці ў вочы. Але паводзіць сябе так, як бы мяне не заўважаў. Сэрцайка, я кахаю Андрушу і не хачу страціць яго.

Бася з Беластока

Бася! Рацыя на тваім баку. Нічога дрэннага ў тым, што ты была на вяселлі сама, паколькі запрасілі цябе адну. Дрэнна толькі, што Андруша так лёгка паддаецца плёткам, слухае іншых, а зусім не гаварыў аб гэтым з табой. Камусьці хацелася вас пасварыць, ну і ўдалося. Але не думаю, каб Андруша доўга вытрымаў. Калі так лёгка будзе плёткам верыць, век тады яму не ажаніцца.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Каханы Астроне! Прыснілася мне, што быццам мая пляменніца кудысьці едзе (быццам вучыцца ў Варшаву ці што). І вось я і яе бацькі праводзім яе. Мы ні то на аўтобусным вакзале, ні то на аэрадроме. Але Данка (пляменніца) кажа, што варта было б зайсці ў кавярню і штосьці перакусіць. Заходзім. Я заказваю крэм, падаю яго ёй, а яна кажа, што ёй гэта не падабаецца. Бярэ цэлую міску нейкай стравы, якая нагадвала капусту, на гэта кладзе крэм і пачынае есці.

А пасля мне прыснілася, што мы з мужам і пляменніцай ехалі поездам, але на даху поезда. І ў пэўным моманце пляменніца чуць не звалілася, яна павісла адной нагой, але мой муж схапіў яе за руку і ўцягнуў наверх. Баюся за яе.

Аня

**Аня!** Тваю пляменніцу чакае нейкая небяспека (бадай, хвароба). Аб гэтым сведчыць тое, што не захацела яна есці звычайны крэм, а ўзялася за капусту. Капуста — яўная хвароба, Вельмі небяспечна ў сне ехаць поездам, а тым больш, што твая пляменніца чуць не звалілася. Твой муж, відаць, ёй дапаможа.

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Тыповае будаўніцтва ў вёсцы Боўтрыкі, гм. Міхалова.* *Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў




# БУЛЬБА

Захвальваць бульбу ў нас няма патрэбы. Побач з хлебам бульба гэта прадукт, які спажываем штодзень. Вельмі важна, каб страву з бульбы падрыхтоўваць умела. Першай памылкай, якую робяць, падрыхтоўваючы стравы з бульбы, з'яўляецца тое, што абіраем бульбу непамытую. Тады лупіна атрымліваецца значна таўсцейшая, а разам з ёю зразаецца той пласт бульбіны, што найбольш багаты вітамінамі і мінеральнымі солямі. Такім чынам, бульбу трэба абіраць вельмі тонка, а калі толькі ёсць такая магчымасць, варта зварыць бульбу ў лупінах (напрыклад, з селядцамі такая бульба найсмачнейшая). Другой памылкай у падрыхтоўцы бульбы было б тое, што бульбу пачынаем варыць, кладучы яе ў халодную ваду. Гэта працягвае час варкі, што спрыяе стратам вітаміну С. Варачы бульбу, трэба заліць яе гарачай вадой і толькі такой колькасцю, каб даходзіла яна да 2/3 вышыні паложанай у каструльку бульбы. Толькі бульбу вельмі маладую або вельмі старую (позняй вясною), трэба заліваць вадою вышэй, чым узровень бульбы ў каструльцы. Бульбу варым заўсёды пад крышкай і абавязкова ў эмаліраванай неаббітай каструльцы. Нават маленькія недахопы ў эмаліі і адкрытае жалеза могуць цалкам знішчыць вітамін С.

### БУЛЬБА Ў СМЯТАНЕ

На 1 кг бульбы ўзяць шклянку смятаны, соль, зяленіну, 4 яечкі. Абабраную бульбу нарэзаць даволі вялікімі кавалкамі і палажыць у плоскую каструлю. Заліць гарачай вадой да паловы вышыні бульбы ў посудзе, пасаліць і варыць. Праз 15 мінут заліць бульбу смятанай і яшчэ хвіліну варыць на меншым агні. Перад падачай пасыпаць бульбу нарэзанай зялянінай і пасечаным крутым яечкам. Дасканалая страва на вячэру! Можна падаваць яе з салатай ці кіслым малаком.

### БУЛЬБА ТУШАНАЯ З ГРУДЗІНКАЙ

На 1 кг бульбы ўзяць 15 дэкаў грудзінкі (бочку), 2 цыбуліны, соль, перац, паўшклянкі смятаны, зяленіну. Абабраную бульбу парэзаць на даволі тонкія скрылёчкі. Таксама парэзаць цыбулю. Грудзінку нарэзаць дробна. На дно каструлі насыпаць скварак грудзінкі. Бульбу і цыбулю класці пластамі, пасыпаючы кожны пласт грудзінкай, соллю і перцам па смаку. Даліць 1 шклянку гарачай вады і тушыць на невялікім агні. Калі бульба амаль мяккая, заліць яе смятанай і яшчэ крыху тушыць. Перад падачай пасыпаць зялянінай. Падаваць з салатам.

**Гаспадыня**

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Наступныя паўгадзіны яны ехалі моўчкі. Кожны быў заняты сваімі думкамі. У Кульжэнка яны не былі вясёлыя. Яна ўжо бачыла сябе на судзе ў Маскве, асляпляльныя ўспышкі фотаапаратаў, сажнёвыя артыкулы і каментарыі аб працэсе ў савецкіх і зарубежных газетах. Яна не сумнявалася, што прыгавор будзе суровы, яе нават могуць на некалькі гадоў пасадзіць у турму. К таму часу, калі яе выпусцяць на волю, яна ўжо будзе старой. Яна добра разумела, што ўсе яе мары аб міністэрскім крэсле ва „ўрадзе“ самасційнай Украіны развеяліся ўшчэнт. Усё стала далёкім і нерэальным. Аднак дзесьці ў глыбіні душы яшчэ была надзея, што, магчыма, немцы выйграюць вайну або ёй удасца ўцячы. Цяпер яна зірнула праўдзе ў вочы і зразумела, што нават калі ёй і пашанцуе, то яна можа разлічваць толькі на другое. Яна раздумвала, як яе пераправяць у Маскву. Нібы разгадаўшы думкі, што яе мучылі, „Гольдэр“ сказаў камандзіру:

— Калі прыляціць за ёю самалёт?

— Як толькі мы паведамім у Маскву аб заканчэнні аперацыі, — адказаў „Бломбе“.

Яны зноў змоўклі. Справа, за дзвесце метраў ад дарогі, пачыналася новая сцяна лесу. „Эрых“ выцягнуў карту.

— Паводле маіх разлікаў, мы знаходзімся непадалёк ад месца сустрэчы з сувязнымі. Глядзі, не праедзь, — звярнуўся ён да шафёра.

— Яшчэ некалькі кіламетраў, — адказаў той. — За паваротам дарога ідзе полем, а потым пачынаецца лес. За некалькі метраў стаіць той ядловец.

Яны якраз былі на павароце, калі пачуліся выстралы. Стралялі дзесьці далёка. Афіцэры пераглянуліся, а ў Кульжэнка страшэнна закалацілася сэрца. Пасля некалькіх мінут язды кананада стала чутна больш выразна. Яны зноў надзелі каскі і выцягнулі аўтаматы.

— Няўжо Сашка ўвязаўся ў бой? — устрывожыўся „Бломбе“. — Яму ж было сказана засесці ў лесе і чакаць нас. Дзіўна. Вельмі дзіўна.

— Такі вопытны партызан, як ён, без прычыны не пачаў бы страляць. Відаць, штосьці здарылася або які-небудзь іншы атрад нарваўся на немцаў, — супакойваў яго „Гольдэр“.

— Так, толькі нам гэта можа ўсё папсаваць і невядома чым скончыцца. Чорт яго бяры! — вылаяўся „Эрых“.

На дарозе замаячыла некалькі фігур. Пад'ехаўшы бліжэй, яны пазналі ўласаўцаў. Адзін замахаў сцяжком, патрабуючы, каб яны спыніліся.

— Збіць яго ці затрымацца? — запытаў шафёр, прыкідваючы на вока адлегласць да выратавальнага лесу.

Да лесу было яшчэ метраў сто пяцьдзесят. Толькі зараз яны заўважылі ля дарогі два матацыклы з каляскамі.

— Спыніцеся, толькі не выключайце матор, каб у выпадку чаго можна было рвануць.

Яны пад'ехалі, і шафёр высунуўся ў акно.

— Што трэба? — спытаў ён вартавога.

— Праезд закрыты, там адбылася сутычка з савецкай бандай.

— Чуем, толькі ў нас няма часу чакаць, мы павінны быць ва Умані. І як мага хутчэй, — дадаў ён рэзкім тонам. — Страляюць жа ў лесе, мы ўмомант праскочым дарогу. Гэта яны на вас напалі?

— Ды не. Яны прытаіліся ў лесе, а мы выпадкова натыкнуліся на іх. Мы ехалі ўціхамірваць сялян, што зрываюць абавязковыя пастаўкі, — разбалбатаўся вартавы.

Яны гутарылі даволі дзіўна. Уласавец гаварыў па-руску, устаўляючы сякія-такія вядомыя яму нямецкія слоўцы, дапамагаючы сабе рукамі. Шафёр-лейтэнант, наадварот, гаварыў па-нямецку, устаўляючы час ад часу рускія словы.

— Трымай папяросу, закуры на здароўе, а мы паедзем.

Салдат узяў папяросу, панюхаў, удыхаючы яе водар, прыкурыў, падзякаваў і развёў рукамі.

— Я радавы салдат, — апраўдваўся ён. — Не магу нікога прапусціць. Атрымаў такі загад. А што, калі вас падстрэляць, тады мне галаву знімуць.

— Якая нам справа да савецкай банды, — гарачыўся шафёр. — Гэта справа СС і паліцыі. У нас іншае тэрміновае даручэнне, якое мы павінны выканаць. Нас чакае сам гаўляйтэр Эрых Кох! Калі мы спознімся, гаўляйтэр усіх вас загоніць у канцлагер за такія жартачкі.

— Мая справа салдацкая. Загад ёсць загад, — стаяў на сваім вартавы. — Вы можаце аб'ехаць. Зробіце невялікі круг і будзеце ва Умані, параіў ён. — Я не магу вырашаць. Пагаварыце з начальнікам патруля.

*(Працяг будзе).*

